Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск




# рэгіянальная газета

12 снежня 2003 года

№ 50 (451)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

17 канал ТэлетыДзень

## Навіны рэгіёну

### Тушылі пажар

**МЯДЗЕЛ.** У Баярах здарыўся пажар. У мужчыны, які спаў на печы, загарэлася коўдра. Суседзі здолелі яго выратаваць. Аднак непрыемнасці ў вёсцы не скончыліся. Падчас пажару знайшлі труп вяскоўца, які зваліўся ў калодзеж. Той быў на ўзроўні зямлі і не меў накрыўкі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Урон на 15 мільёнаў

**ВАЛОЖЫН.** Раённым аддзелам следчага камітэта Беларусі ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах невядомага зламысніка. Вартавыя правапарадку адшукваюць "гарачага хлопца", які пашкодзіў радыёмачту на лініі газаправоду Мінск-Вільня. Сума ўрону склала амаль 15 мільёнаў рублёў.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА.**

### Тэлевежа па-маладзечанску

**МАЛАДЗЕЧНА.** Асноўную металічную частку канструкцыі новай галоўнай беларускай тэлевежы, што паўстане ў Мінску, зробяць на Маладзечанскім заводзе металаканструкцый.

Будаўніцтва вежы пачнецца ў сталіцы ў наступным годзе. Агульная яе вышыня, як паведамляе Інтэрфакс, складзе 352–356 метраў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Першапраходцы

**АСТРАВЕЦ.** Прыкладна год таму сем прадпрымальнікаў аб'ядналі свае намаганні для будаўніцтва гандлёвага цэнтра. Ідэя зыходзіла ад Ганны Варэйкі. Хутка цэнтр прыме першых пакупнікоў. Акрамя крамаў з прадуктамі і прамысловымі таварамі тут будзе і кавярня.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Гучаў паланэз

**СМАРГОНЬ.** Падарунак, піяніна, быў уручаны сядзібе Агінскага ў Залессі ад імя Нацыянальнай камісіі ў Беларусі па справах ЮНЕСКА месяц таму. А на мінулым тыдні ў Залескай школе адбылася "прэзентацыя" музычнага інструмента. Ініцыятарамі яе сталі выкладчыкі дзіцячай музычнай школы і студыі "Альтанка".

**Ірына ЛУГІНА.**

### З лёгкім парам

**АШМЯНЫ.** З балансаў калгасаў і сельсаветаў на ўтрыманне камунальнікам перадаюць вясковыя лазні ў раёне. Запрацавалі яны ў Гальшанах, Будзёнаўцы, Кракаўцы. У наступным годзе гэты спіс папоўніцца яшчэ дзесяткам населеных пунктаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



95-гадовая жыхарка Радашкавічаў Вольга Аблачынская разам з сынам Юрыем і дачкой Рэгінай. Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Імянінніца са стажам

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак старэйшая жыхарка Радашкавічаў Вольга Аблачынская сустрэла 95-гадовы юбілей. У маладосці яна працавала на сталічнай фабрыцы цукерак. Але жыццё ў жанчыны было далёка не салодкае.**

Нягледзячы на тое, што родам з Віцебшчыны, можа лічыць сябе карэннай радашкаўчанкай. І 10-, і 50-гадовыя месцічкоўцы ведаюць пра дабрыню і спагаду бабулі Олі. Мяркую, гэтыя якасці – падарунак ці дар, які жанчына заслужыла, перажыўшы голад, нястачу і вайну.

Прынята думаць, што дзяцінства — найшчаслівейшая пара. Але пра дзіцячыя гады бабулі Вольгі так не скажаш. Як доказ гэтаму – успаміны аб працы замест гульняў і цацак. Такое ўражанне, што дзеці яе пакалення ніколі дзецьмі не былі, а адразу ператвараліся ў дарослых. Не лягчэй склалася і маладосць Вольгі, якая прыпала на ваенныя гады. Так, былі ўсмешкі, каханне, пацалункі. Са сваім мужам яна пазнаёмілася на фабрыцы цукерак, што ў Мінску. Але... хутка ў жыццё ўварвалася вайна. Са сталіцы сям'я Аблачынскіх збегла ў Радашкавічы. Муж быў сувязным, як і Вольга, а таксама партызаніў. На фронт ён пайшоў у 1944 годзе. І прапаў без вестак. Жонка адна гадавала траіх дзяцей. Калыску для іх замяняла карыта. Калі скончылася вайна, свайго дома не было. Пакуль атрымалі жыллё ў Радашкавічах, месціліся ў хляве. Дачка Рэгіна памятае, як маці працавала з сямі гадзін раніцы да дзесяці вечара.

— Нялёгка было, — пытаюся ў яе.

— Ва ўсе часы ёсць дрэннае і добрае, — адказвае жанчына.

У размову падключылася нявестка Ніна, якая ўвайшла ў сям'ю Аблачынскіх 30 год таму.

— Прынялі мяне як родную. Ва ўсім давяраюць.

— Так -так, — пацвердзіў муж. — Мая маці Ніну любіць больш за мяне, але я не крыўдую. Мне толькі ў радасць гэта.

А яшчэ хачу, каб маці сустрэла свой 100-гадовы юбілей. Калі побач блізкі, родны чалавек, то і дзецям спакойна і надзейна. Сэрца маці, ае дабрыня і пяшчота абараняюць ад жыццёвых бур і нягод, прымушаюць верыць у сябе, спадзявацца на лепшае.

Мама шмат перажыла. Але ніколі не чуў, каб скардзілася ці на лёс, ці на цяжкасці. Не баялася работы, з дабром ішла да людзей, якіх заўсёды любіла.

Далучылася да віншаванняў мясцовая ўлада. Традыцыю — віншаваць пажылых з днём нараджэння, а таксама ладзіць для іх усялякія агеньчыкі — заклаў старшыня Радашкавіцкага пасялковага савета Сяргей Уласаў.

— Чаму вы так вырашылі? — пытаюся ў яго.

— Я вырас ў сям'і, дзе гадаваліся 12 дзяцей. Гэта даніна бацькам, старэйшаму пакаленню.

**Ірына РАБУШКА.**

### Адбыўся Дзень прызыўніка

Каля 200 хлопцаў прыйшлі 7 снежня ў гарадскі аб'яднаны ваенкамат на Дзень прызыўніка.



2-я старонка

### Няма свята без ёлкі

У пошуках ёлкі і аксесуараў да яе карэспандэнт адправіўся па магазінах.



5-я старонка

### Вада— крыніца здароўя

Выкарыстанне ў дастатковай колькасці дабраякаснай вады садзейнічае ўмацаванню здароўя.

6-я старонка

■ ПАДЗЕЯ

# Адбыўся Дзень прызыўніка

**МАЛАДЗЕЧНА. Каля 200 хлопцаў прыйшлі 7 снежня ў гарадскі аб'яднаны ваенкамат на Дзень прызыўніка, які ўпершыню праходзіў на базе вайсковай часці.**

Ваенны камісар гарадскога ваенкамата палкоўнік **Аляксандр Жураўскі** сказаў у інтэрв'ю: «Мы пастараліся адысці ад штампаў і паказаць умовы службы на прыкладзе вайсковай часці сувязі».

Хлопцаў падзялілі на групы і строем павялі на месца прызначэння. Там асобна для кожнай групы афіцэры часці правялі экскурсію. Прызыўнікам расказалі гісторыю гэтай вайсковай часці, паказалі музей, пост днявальнага, салдацкія ложкі, вайсковы магазін. Менавіта ён і зацікавіў хлопцаў найбольш, а днявальнаму яны задавалі пытанні часцей, чым афіцэру-гіду.

Затым усіх сабралі ў актавай зале. Перад прызыўнікамі выступілі ветэраны вайны **Мітрафан Жамчужнікаў, Дзмітрый Мельнічук, Павел Рыжкоўскі**, настаяцель Свята-Пакроўскай царквы **айцец Аляксандр** і старшыня раённай прызыўной камісіі **Наталля Гайковіч**. Палкоўнік Аляксандр Жураўскі паведаміў аб зменах у законе аб службе ў войску. Падпалкоўнік **Аляксандр Кісліцын** расказаў, як трэба дзейнічаць у дзень адпраўлення ў часць, пра рэжым дня салдата (у якім уразіў пад'ём а шостай гадзіне раніцы) і запэўніў, што харчаванне ў войску дастаткова, хоць па першым часе, пакуль хлопцы прывыкнуць да рэжыму дня, хочацца есці.

Пасля афіцыйнай часткі перад прызыўнікамі і салдатамі выступілі мастацкія калектывы маладзечанскага Палаца культуры.

Напрыканцы сустрэчы некаторым прызыўнікам выдалі павесткі для адпраўлення ў элітныя часці: мабільныя сілы, спецназ і войскі МУС.

**Святлана ЦІШКО.**



**У Дзень прызыўніка будучым салдатам паказалі музей вайсковай часці сувязі, што размешчана ў Маладзечне.**

Фота Святланы Цішко.

■ ІНТЭРНЭТ

## Сайт Караткевіча

**Створаны сайт Уладзіміра Караткевіча. На галоўнай старонцы па адрасе uladzimir-karatkevich.iatp.by наведвальнікам паведамляюць дакладны час у Мінску і прапануюць выбраць мову, на якой будзе падавацца інфармацыя: беларускую, рускую ці англійскую.**

На сайце можна пазнаёміцца з біяграфіяй пісьменніка, пачытаць яго творы на беларускай мове ці ў перакладзе. Можна наведаць гасцёўню. Па сутнасці гэта форум, на якім абменьваюцца меркаваннямі. Ён прываблівае тым, што ўсе яго госці маюць шмат агульных інтарэсаў.

Стваральнікі інтэрнэт-старонкі пра Караткевіча прапануюць паглядзець у галерэі фотаздымкі пісьменніка, мясцінаў, дзе ён быў, ілюстрацыі да твораў і фотаздымкі, зробленыя ім самім. На жаль, з першай спробы ніводны з гэтых раздзелаў не адкрыўся.

**Святлана ЦІШКО.**

## Моладзь і тэатр

**У пачатку снежня ў Мінскім абласным драматычным тэатры сабраліся прыхільнікі тэатральнага мастацтва. На абмеркаванне ўдзельнікаў дыспуту (а гэта прадстаўнікі сярэдніх школ горада і раёна, каледжаў, гімназій, вучылішчаў) была вынесена тэма "Моладзь і тэатр".**

Былі выказаны розныя думкі, меркаванні аб шляхах узаемасувязі, узаемасупрацоўніцтва тэатра і адукацыйных устаноў, грамадскіх арганізацый моладзі. Загадчыца гарадскога аддзела культуры **Надзея Сідарэнка** прапанавала, і, дарэчы, уся зала падтрымала яе, аб'явіць конкурс на сцэнарый спектакля для аблдрамтэатра пра Маладзечна і Маладзечаншчыну. Плануецца паставіць такі спектакль пры непасрэдным удзеле моладзі.

Калектыў тэатра расказаў аб сваіх планах – будучых прэм'ерах, адна з якіх прысвечаная 60-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, адкрыцці студыі маладога акцёра, прапанаваў узаемакарысны шлях да супрацоўніцтва са школамі, вучылішчамі, каледжамі.

Удзельнікі размовы вырашылі стварыць каардынацыйны савет, у склад якога ўвойдуць прадстаўнікі адукацыйных устаноў (як выкладчыкі, так і навучэнцы), гарадскіх улад, грамадскіх аб'яднанняў, тэатра. Мэта стварэння – патрыятычна-эстэтычнае выхаванне моладзі, папулярызацыя тэатральнага мастацтва.

Усе ўдзельнікі ўбачылі ў фае тэатра невялікую выставу касцюмаў, макетаў розных спектакляў, а таксама акунуліся ў атмасферу прэм'ернага спектакля "Нязваны госць" Святланы Бартохавай.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

## Грып спяшаецца

**Як паведамляе БелаПАН, па прагнозах беларускіх медыкаў, эпідэмія грыпу сёлета наступіць у больш раннія тэрміны.**

Першапачаткова эпідэмія прагназавалася на другую палову студзеня, аднак зараз медыкі называюць іншыя тэрміны: канец снежня — пачатак студзеня. Як паведаміла БелаПАН загадчыца эпідэмічнага аддзела Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Алена Фісенка, асновай для такога прагнозу сталі лакальныя ўспышкі новага варыянту вірусу грыпу А на тэрыторыі Расіі і Еўропы. «Інтэнсіўнасць захворвання будзе, натуральна, вышэйшая за леташнюю, аднак сітуацыя не выходзіць за рамкі прагнозаў і падстаў для панікі няма», — сказала А.Фісенка.

Паводле яе слоў, зараз у сувязі з эпідэміяй грыпу ў Мінску праводзяцца дадатковыя супрацьэпідэмічныя мерапрыемствы: ацэньваецца гатоўнасць медыкаў да работы ва ўмовах павышанага паступлення хворых, гатоўнасць бальніц і аптэчнай сеткі.

Алена Фісенка паведаміла, што для правядзення сёлетняй прышчэпкавай кампаніі ў горадзе са сродкаў дзяржаўнага бюджэту было закуплена каля 80 тысяч доз супрацьгрыпозных вакцын. Аднак, паводле яе слоў, гэтай колькасці не хапае, бо людзей, схільных да частых хранічных захворванняў, у прыватнасці дзяцей, аказалася больш, чым меркавалася. Таму дадаткова было закуплена 15 тысяч доз спліт-вакцыны.

Гэтая вакцына, у адрозненне ад звычайнага «Грыпола», забяспечвае больш моцную абарону арганізма ад вірусу грыпу, адзначыла спецыяліст. Спліт-вакцына лічыцца адной з найлепшых у свеце вакцын, якія найбольш паспяхова зарэкамендавалі сябе ў барацьбе супраць грыпу. Згодна з даследаваннямі, дзякуючы вакцынацыі (пры гэтым не важна, якая вакцына была выкарыстана) узровень захворвання на вострыя рэспіраторна-вірусныя інфекцыі (ВРВІ) і грып зніжаецца на 50—60 працэнтаў. Летась, паводле слоў медыка, у Мінску былі прышчэплены больш чым 70 тысяч чалавек.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАДПІСКА 2004

# Падпішыся і выйграй

**Вечар пры свечках на дваіх у маладзечанскім кафэ "Блюз", акумулятар Зубр 12V 55Ah 440A (EN), тваё мастацкае фота ў майстэрні Яўгена Стэльмаха, кафейны сервіз, камплект пасцельнай бялізны і іншыя прызы разыгрываюцца сярод падпісчыкаў на "Рэгіянальную газету" на першае паўгоддзе 2004 года. Падпішыся і выйграй прыз ад "Рэгіянальнай газеты"!**

### Умовы розыгрышу

**У розыгрышы прызоў удзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі на адрас рэдакцыі ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года на "Рэгіянальную газету" (у апошніх права двух галасоў).**

Ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года прымаюцца да ўдзелу ў розыгрышы да 30 снежня ўключна.

Розыгрыш прызоў адбудзецца на другі тыдзень студзеня ў прысутнасці і з удзелам чытачоў газеты, работнікаў рэдакцыі, аўтарскага актыву. Вынікі розыгрышу апублікуе "Рэгіянальная газета".

Прызы будуць выдавацца па прад'яўленні арыгінала падпіснога абанемента, калі ў рэдакцыю была пададзена копія.

Найбольш актыўныя жыхары рэгіёну ўжо паспелі даслаць ксеракопіі падпісных абанементаў на адрас рэдакцыі. Далучайцеся да іх, і ў вас таксама з'явіцца шанс атрымаць прыз ад "Рэгіянальнай газеты". Апошні дзень падпіскі на выданне – 25 снежня. Будзьце ў нашай кампаніі!

**Індэкс індывідуальнай падпіскі 63212, кошт на месяц 2460 руб.**

**Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц 7380 руб.**

**Даведкі па тэлефонах:**
**Маладзечна 7-05-73,**
**Вілейка 5-64-68,**
**Валожын 5-54-57,**
**Мядзел 5-47-52,**
**Смаргонь 2-14-65,**
**Ашмяны 2-03-99,**
**Астравец 2-17-58.**




Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ

**63212 (63369)**
(індэкс выдання)

рэгіянальная газета

Колькасць

На 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

ПВ | месца | літара

**63212 (63369)**
(індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ

рэгіянальная газета

Кошт | падпіскі | | Колькасць

На 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

■ ГАНДАЛЬ

# Першы прыватны

**ВІЛЕЙКА. 2 снежня пачаў працаваць першы ў горадзе харчовы павільён з гандлёвай залай, уласнікам якога з'яўляецца індывідуальны прадпрымальнік.**

Павільён размясціўся на вуліцы Вадап'янава каля мэблевай крамы. Пакуль што ён не мае назвы. Цяпер, па словах уласніцы Зінаіды Шабуні, выбіраецца найлепшы варыянт. Перавага будзе аддадзена "ўтульнай" назве. Да Новага года будзе зробленая неонавая рэклама. Харчовы павільён займае палову будынку, пабудаванага разам з прадпрымальнікам Ларысай Шавель. Неўзабаве тут адчыніцца прамысловы павільён. Да пачатку 80-х гадоў побач з гэтым месцам была харчовая крама № 10, якая пасля пераезду стала цяперашнім універсамам "Вілія".

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**



**2 снежня ў Вілейцы пачаў працаваць першы ў горадзе харчовы павільён з гандлёвай залай. Уладальнікам яго з'яўляецца індывідуальны прадпрымальнік.**

Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

# Расія, у якую мы ўсё ж верым

**У мінулую нядзелю расіяне выбіралі ў чарговы раз свой парламент – адбыліся выбары ў ніжнюю палату Дзяржаўнай Думы. У гэтых выбарах ужо не было інтрыгі – ці пераможа правячая партыя "Адзіная Еўропа" свайго галоўнага апанента апошняга дзесяцігоддзя – КПРФ; у прэзідэнцкіх выбарах наступнага года інтрыгі і тым больш няма з-за адсутнасці рэальнай альтэрнатывы Пуціну.**

Краіна, якой практычна не свеціць у бліжэйшыя 30 гадоў без штогадовага росту вытворчасці на ўзроўні 8-10% дагнаць самую бедную краіну Еўропы – Партугалію, застаецца палітычна супакоенай. Гэта ў чарговы раз пацвердзіла галасаванне – адна трэць тых, хто прыйшоў на выбары, аддала свае галасы за партыю ўлады, па 12%-13% — за КПРФ і ЛДПР і каля 9% — за блок "Радзіма", які прымыкае да левай ідэалогіі. У новую Думу не прайшлі правыя партыі, ды і яўка ў цэлым аказалася ніжэйшай за мінулыя гады. Народ стаміўся ад чаканняў, ад палітыкі наогул. Усе шматгадовыя інтэграцыйныя танцы вакол саюза Беларусі і Расіі неяк выйшлі на першы план самі сабой, адсутнуўшы ў апошні час якую-небудзь інфармацыю аб тым, што робіцца ў Расіі.

Праўленне Ельцына не прайшло для Расіі дарэмна – наша ўсходняя суседка выстаяла і рухаецца наперад, камуністы там прайгралі адназначна і назаўсёды, што і прадэманстравала галасаванне. Рэформы, якія пачаліся няхай сабе і няўмела і працягваюцца рыўкамі і з бачнымі памылкамі, усё ж выцягнулі гэту дзяржаву. І менавіта ўсё гэта дазваляе не пасылаць Расію, як раней і як цяпер робіць Захад, да д'ябла, а наадварот, прымушае пачынаць у яе верыць. Паспрабуем гэту яшчэ даволі слабую веру ўмацаваць аргументамі.

### Расія становіцца багатай

Ужо які год назіраецца прафіцыт бюджэту, што дазваляе павялічыць сацыяльныя выплаты. Пасля жнівеньскага дэфолту 1998 года вера ў стабільнасць рубля пачала ўмацоўвацца — і расіяне панеслі грошы ў банкі: на рахунках фізічных асоб рэшткі дасягаюць 1,5 трыльёна рублёў. Кожны пяты расіянін фармальна ўжо адносіцца да сярэдняга класа, а 7% расійскіх сямей маюць усе тры прыкметы, якія яму ўласцівыя: адносна высокае матэрыяльнае становішча, высокі сацыяльна-прафесійны статус (вышэйшая адукацыя, рэгулярная занятасць, нефізічны характар працы) і адпаведная самаідэнтыфікацыя – самі гэтыя людзі адносяць сябе менавіта да сярэдняга класа. Жыццё ў Маскве, дзе круціцца больш за 80% расійскіх грошай, проста бурліць. Усеагульнай стала цяга да ўцех, Масква стала самым модным горадам Еўропы. Ды і ў свеце імідж цяперашняй Расіі – гэта ўжо не праблема прыгожых вачэй, бярозак, гарэлкі і матрошак, а праблема велізарных грошай. Менавіта таму ў Маскве попыт на дарагія японскія аўтамабілі ў 3 разы перавышае прапановы. Канешне, у Расіі па-ранейшаму не любяць алігархаў большая частка насельніцтва. Адсюль і поспех на выбарах блока "Радзіма", вядомага прыхільнасцю да лозунгаў нацыянал-сацыялізму. Калі раней рэвалюцыі рабілі, каб не было бедных, то сёння – каб не было багатых. Зразумела, што ў Расіі нельга зарабіць вялікія грошы і не парушыць закон.



Маскоўскія куранты адлічваюць час ужо новаму парламенту.

Фота Bymedia.net.

Праблема перагляду вынікаў прыватызацыі пасля арышту аднаго з уладальнікаў нафтавай кампаніі "Юкас" непрымальная для Расіі, рэвалюцыі закончыліся. Дзяржава – вельмі неэфектыўны ўласнік, гэта паказала планавая сацыялістычная мадэль нашай эканомікі, правільна будзе сказаць, — яе крах. Таму прыватызацыя, акрамя абагачэння лідэраў, праводзілася яшчэ з мэтай павышэння эфектыўнасці кіравання актывамі, і гэта мэта ў Расіі дасягнута. Буйны капітал таксама павінны рабіць свой бізнес больш празрыста – без гэтага ўжо немагчыма рабіць вялікія грошы ў сучасным свеце – алігархі павінны і будуць дзяліцца з грамадствам. Прычым добраахвотна, як мецэнаты і спонсары, і прымусова ў выглядзе падаткаў. Новы перадзел уласнасці зноў жа па блату і кумаўству таксама небяспечны. У цэлым жа расіяне сталі багацейшымі – за апошні год на 15% узрос сярэдні даход на душу насельніцтва і склаў каля 5000 рублёў, сярэднямесячная зарплата – каля 5,7 тысячы рублёў. Інфляцыя падае з кожным годам, у сёлетнім чакаецца не вышэй за 12%. Золатавалютныя рэзервы складаюць больш за 65 мільядаў долараў. Прэзідэнт Пуцін паставіў задачу падваення валавога ўнутранага прадукта за 10 гадоў, з якой у свой час паспяхова справіўся Кітай. Па аб'ёмах дабычы нафты Расія ўжо праз год выйдзе на 10-е месца ў свеце, абагнаўшы ЗША і Саудаўскую Аравію. Па дадзеных расійскіх аналітыкаў, толькі наяўнымі ў Расіі гуляе каля 25 мільярдаў долараў. Да 2008 года дзяржавай у прыватныя рукі будзе прададзена ўсё, што не патрэбна – прадпрыемствы з доляй дзяржавы менш за 50%, бо без кантрольнага пакета імі немагчыма будзе кіраваць.

### У нас з Расіяй – падобныя праблемы

У Расіі ўсё яшчэ няма паўнацэннай рынкавай эканомікі, хоць і каля 60% аб'ёму вытворчасці знаходзіцца ў прыватных руках. У Расіі большай часткі насельніцтва вялікія страсці вялікай палітыкі па-ранейшаму "па барабану". Самы галоўны адмоўны вынік 10-і апошніх гадоў – гэта неўцягненне большасці насельніцтва ў рэальную эканоміку. Будучае – не за пераразмеркаваннем уласнасці, а ў яе эфектыўным кіраванні праз уцягненне ў яго мільёнаў простых грамадзян, праз стварэнне соцень і тысяч новых прадпрыемстваў, кафэ, цырульняў. Другой праблемай Расіі становіцца тармажэнне рэформ, своеасаблівы крок назад. Застой, які загубіў калісьці савецкую імперыю, мацнее. Бюракратыя стала самастойнай эканамічнай сілай, ператварылася ў дзяржаўную наменклатуру. Гэта гарантуе стабільнасць, але адрывае яе ад народа і замаруджвае рэформы. Унутры ж наменклатурнай бюракратыі ў апошні час бачна ўзмацніўся ўплыў спецслужбаў і сілавікоў. Падобна на тое, што спецслужбы атрымалі ўладу, якую не мелі нават у савецкія гады. Але кіраваць эканомікай яны не навучыліся. Застойны дух ахоплівае ўсё новыя галіны, ініцыятыва выкараняецца бюракратыяй на месцах, індывідуалізм заканчваецца.

Усе гэтыя праблемы ёсць і ў нас, у Беларусі. Але расіяне у адрозненне ад нас хоць пачынаюць іх вырашаць. І ў іх расшучаюць мы пачынаем верыць.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 4.12 руб. | 11.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2145,00 | 2148,00 |
| Еўра | 2595,34 | 2618,63 |
| Злоты | 556,78 | 563,48 |
| Літ | 751,73 | 758,53 |
| Расійскі рубель | 72,23 | 72,72 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2145/2165 | 2145/2165 |

Маладзечна
## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 3.12 | 10.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13740 | 13740 |
| Сасіскі, 1 кг | 4690 | 4690 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 950 | 900 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1350 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1600 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 570 | 550 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 900 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 800 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 150 | 160 |
| Морква, 1 кг | 250 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 2950 | 2750 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Яблыкі, 1 кг | 950 | 950 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2200 | 2300 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2500 | 2400 |
| Бульба, 1 вядро | 2200 | 2400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

■ КРЫМІНАЛ

## «Паласаваўся»...

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак невядомы выкраў у жыхаркі вёскі Мясата 45 кілаграмаў мяса свініны.**

Злодзей ноччу залез у летнюю кухню, што ў двары дома. Там і «паласаваўся». Узбуджана крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

БАРЫС КІТ
Запіс Васіля БЫКАВА

# Цярновы шлях

**“Рэгіянальная газета“ працягвае друкаваць успаміны аднаго з самых вядомых беларусаў XX стагоддзя Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне. Поўны іх тэкст шукайце на сайце газеты па адрасе regionnews.promedia.by.**

Народ толькі тады існуе, калі мае сваіх герояў. У гэтым сэнсе хачу ўспомніць пра дзьве ахвяры новай дыктатарскай улады - спадароў Генадзя Карпенку і Віктара Ганчара, зь якімі меў прыемную сустрэчу ў Маладэчне. Тады абодва яны здаліся мне вельмі перспектыўнымі палітыкамі. Дужа шкада, што лёс абышоўся зь імі гэтак бязьлітасна.



**Генадзь Карпенка. Нарадзіўся 17 верасня 1947 года ў Мінску. Намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання. Доктар тэхнічных навук. Член-карэспандэнт АН Беларусі. Акадэмік Беларускай інжынерна-тэхналагічнай акадэміі. Лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі. У 1972 годзе скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Прайшоў шлях ад інжынера да старшага навуковага супрацоўніка Інстытута ядзернай энергетыкі. З 1983 працаваў у навукова-вытворчым аб'яднанні парашковай металургіі. У 1980–х – дырэктар завода парашковай металургіі ў Маладэчне. У 1990 выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР XII склікання. Старшыня камісіі па навукова–тэхнічным прагрэсе. Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Ад 1991 па 1994 – старшыня гарвыканкама ў Маладэчне. Прымаў удзел у прэзідэнцкіх выбарах 1994 года. Не прызнаў вынікі лістападаўскага рэферэндуму 1996 года па змяненні канстытуцыі. Раптоўна памёр 6 красавіка 1999 года. Быў жанаты, двое дзяцей.**

Фота з архіва "РГ".

На заканчэньне хачу распавесьці пра аднаго з найвыдатнейшых дзеячаў беларускага адраджэньня Браніслава Тарашкевіча, старшыню беларускай сялянска-работніцкай Грамады на самым пачатку яе нараджэньня. Тады беларускае сялянства яшчэ захоўвала сваю беларускасьць, што выявілася ў арганізацыі самой Грамады, якая адразу сабрала 100 тысяч сяброў. Яе гурткі былі створаны па ўсёй Заходняй Беларусі. Мы, вучні гімназіі, таксама далучыліся да гэтага руху, я арганізаваў гурток нават у сваёй роднай вёсцы, дзе мой бацька стаў яго старшынёй. Гісторыя Грамады ёсць адным з самых выдатных мамэнтаў гісторыі Беларусі. Я меў гонар асабіста спаткаць Браніслава Тарашкевіча. Як тое адбылося? Незвычайна актыўная дзейнасьць беларусаў занепакоіла польскія ўлады. Тарашкевіч ды іншыя лідэры Грамады адчулі, якая над намі навісае пагроза. Менавіта ў такі час Браніслаў Тарашкевіч прыехаў у нашу Навагрудскую беларускую гімназію. Ён растлумачыў нам пра пагрозьлівае становішча для Грамады, наладзіў спатканьне з актывам гімназіі, у ліку яго пяці чалавек апынуўся і я. Мы абгаварвалі наша становішча, выпрацоўвалі меры ў адказ. Тарашкевіч папярэдзіў нас, каб мы былі болей асьцярожныя, схавалі нашы білеты Грамады. Тое было правільна, бо моладзь, як заўжды, была неасьцярожная, а Тарашкевіч папярэджваў нас. Хутка пасьля таго Грамада была ўсё роўна забароненая польскімі ўладамі, адбыўся вялікі працэс у акруговым судзе ў Вільні. Але не зважаючы на забарону, мы рабілі беларускую справу далей. Такім у маёй памяці застаўся Браніслаў Тарашкевіч, які пасьля апынуўся ў Савецкім Саюзе і згінуў.

Хочацца хоць напрыканцы гэтых апавядаў успомніць яшчэ адну падзею, якая здарылася зусім нядаўна. Газэты ў Польшчы, а таксама ў Беларусі шмат пісалі аб памершым Юрыю Гедройцу, па народжаньню беларусу, які перад вайной быў вялікі польскі дзеяч, а пасьля вайны — рэдактар польскага часопісу «Культура» ў Парыжы. Гедройц спрыяў беларускай справе, трымаў у сваім часопісе г.зв. «Беларускую хроніку», якой кіраваў мой прыяцель Уладзімер Брылеўскі з вёскі Залесьсе, што каля Маладэчна. Брылеўскі пісаў вельмі добра і гэтым шмат зрабіў для беларускай справы, за што яму належыць вялікая ўдзячнасьць і пашана ад усіх беларусаў.



**Віктар Ганчар. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Слуцкім раёне. У 1979 годзе скончыў юрфак Белдзяржуніверсітэта. Кандыдат юрыдычных навук, дацэнт. З мая 1991 года – першы намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкама. У верасні 1991 года выступіў у парламенце з заявай аб незаконнасці прыпынення дзейнасці КПБ. У чэрвені 1994 года становіцца намеснікам прэм'ер–міністра Беларусі. Выступаў супраць А.Лукашэнкі ў ходзе лютаўскага рэферэндуму 1996 года. 16 верасня 1999 года знік без вестак.**

Фота з архіва "РГ".

**Заканчэнне будзе.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Палавое жыццё маладзее

**ВІЛЕЙКА. З трыццаці трох апытаных трэцякурснікаў – навучэнцаў ПТВ у Вілейцы (юнакі ва ўзросце 17-18 гадоў) – 1 пачаў палавое жыццё ў 13 гадоў, 4 – у 14, 6 – у 15, 8 – у 16, 8 – у 17, 3 – у 18, і 3 яшчэ застаюцца цнатлівымі.**

Ну і што? – скажаце вы. – Ні для кога не сакрэт, што палавое жыццё маладзее. Гэта так. Але анкетаванне было праведзена не з мэтай высветліць, хто ў колькі паспрабаваў "забаронены плод", а ці карыстаюцца пры гэтым падлеткі прэзервацівамі. І вось вынікі. Толькі 3 падлеткі карыстаюцца прэзервацівамі заўсёды, 24 час ад часу! Прытым, што ў большасці было некалькі палавых партнёраў. 13 прымяняе іх "каб не заляцець", а толькі астатнія 17 – каб не захварэць.

З тых, хто карыстаецца сродкамі засцярогі, 25 купляе іх на эканомленыя грошы і толькі 2–м на іх даюць грошы бацькі. Такім чынам, не толькі падлеткі, але і іх бацькі не клапоцяцца пра іх, іх здароўе. Першага снежня – Дзень барацьбы са СНІДам. СНІД – не экзатычная кветка, якая расцвітае раз у год, што можна зрэзаць і забыцца да наступнага года.

У ПТВ-200, дзе праводзілася апытанне, вучацца падлеткі з усяго рэгіёну. Мяркую, што ў іншых навучальных установах справы не лепей. А таму трэба падымаць трывогу. Усім вядома светлагорская бяда, якая пачалася з некалькіх наркаманаў. Такая ж бяда можа напаткаць Вілейку ці Маладзечна.



Прылюдныя "танцы-абдыманцы" – адна з рыс паводзін моладзі. Юнакі і дзяўчаты не саромеюцца цалавацца ў транспарце і на аўтобусных прыпынках.

Фота Ігара КІЦІКАВА.



Адкрыты ўрок вядзе
Ігар КІЦІКАЎ,
kitikoff@tut.by.

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

# Чытаюць людзі шмат

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніца ў кіёску пачынаецца для Наталлі Цыплаковай з раскладвання газет і шматлікага тавару па паліцах. Кажа, што працэдура гэта займае часу няшмат. Бо кожная рэч мае ў яе сваё, пастаяннае месца.**

Кіяскёрам яна стала не адразу. Сваю працоўную біяграфію пачынала на вузле электрасувязі, дзе была апаратарам. Аднак двухзменны графік работы і малыя дзеці ніяк не ўпісваліся ў жыццё. Прыйшлося аддаць перавагу сям'і і шукаць іншае месца работы. Ім і стаў шапік "Белсаюздруку".

"Рабочы дзень тут, — расказвае Наталля, —пачынаецца ў дзевяць гадзін раніцы і заканчваецца ў шэсць вечара. Таму заўсёды маю час адправіць чацвертакласніка Арцёма ў школу, а дачушку Машу ў дзіцячы садок. Вечары мы таксама праводзім разам. З задавальненнем гуляем у настольныя гульні, чытаем кніжкі, глядзім тэлевізар. У такія хвіліны я вельмі спачуваю жанчынам, якія вымушаны працаваць у дзве, а часам і ў тры змены".

Ужывалася ў новую прафесію ў мікрараёне "парашкі". Цяпер прадае газеты і часопісы ў кіёску №7, што размешчаны побач з музычным вучылішчам. Расказвае, што народ тут чытаючы. Бывае, што за свежымі газетамі, часопісамі, выстройваюцца



**Наталля Цыплакова працуе ў кіёску №7, што каля Маладзечанскага музычнага вучылішча.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

нават чэргі. Ёсць у Наталлі і пастаянныя кліенты, якіх, дзякуючы таму, што ў кіёску працуе адна, ведае ў твар.

Аўдыторыя розная. Розныя і яе інтарэсы, патрэбы. Пенсіянеры часам просяць газетку таннейшую, моладзь аддае перавагу часопісам. А народ працуючы купляе па некалькі выданняў адразу. "Карыстаецца попытам і "Рэгіянальная газета", — гаворыць Наталля. Людзям цікава ведаць, што робіцца ў нашых суседзяў віляйчан, валожынцаў. Ды і праграма тэлебачання ў вас добрая".

Дзень у кіёску ляціць непрыкметна. "Можа, таму, — разважае Наталля,— што ўвесь час сярод людзей. Ды і работы ў нас багата: ёсць свая бухгалтэрыя, свае планы, справаздачы". Спраўляцца з усім гэтым лягчэй, калі работа падабаецца. Наталля Цыплакова адчувае сябе на сваім месцы.

**Марына СЛІЖ.**

■ АНОНС

# Форум міласэрнасці

У сярэдзіне лютага 2004 года ў Беларусі адбудзецца Міжнародны форум сацыяльных і гуманітарных грамадскіх аб'яднанняў краін – новых суседзяў Еўрапейскага Саюза – «Міласэрнасць: адказнасць і сацыяльная салідарнасць».

Падчас працы адбудзецца гуманітарная акцыя па аказанні дапамогі шэрагу медыцынскіх і дзіцячых спецыялізаваных устаноў Мінска і вобласці.

Галоўныя задачы Форуму – звярнуць увагу сусветнай грамадскасці і ўлад краін-удзельніц на праблемы сацыяльнай абароны грамадзян, стварыць механізм каардынацыі намаганняў усіх сацыяльных і гуманітарных інстытутаў для аказання рэальнай дапамогі малазабяспечаным.

Створаны аргкамітэт. У яго ўваходзяць дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Валеры Фралоў, старшыня фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы, намеснік старшыні Народнай Грамады Уладзімір Нісцюк, прадстаўнік жаночых і дзіцячых арганізацый Таццяна Ваніна, паэт Генадзь Бураўкін, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка.

Мы запрашаем да супрацоўніцтва структуры дзяржаўнай улады, міжнародныя сацыяльныя цэнтры, палітычныя партыі і арганізацыі «трэцяга сектара».

Прапановы можна накіроўваць па адрасах: nistsiuk@tut.by, dgrespublika@yahoo.com, rusinata@rambler.ru. Кантактныя тэлефоны: 8–017–222–41–45 (факс); 296–53–99 67.

**Аргкамітэт**

■ КАМПЕТЭНТНА

# Вада – крыніца здароўя

**МАЛАДЗЕЧНА. Вада з'яўляецца адным з важнейшых элементаў біясферы. Яна мае важнае гігіенічнае і народна-гаспадарчае значэнне. Выкарыстанне ў дастатковай колькасці дабраякаснай вады садзейнічае захаванню і ўмацаванню здароўя, павелічэнню працаздольнасці жыцця чалавека.**

Неабходнасць арганізма ў вадзе задавальняецца галоўным чынам за кошт выкарыстання пітной вады, напіткаў і харчовых прадуктаў.

Пры спажыванні пітной вады, якасць якой не адказвае гігіенічным патрабаванням, ствараецца рэальная пагроза ўзнікнення захворванняў інфекцыйнай і неінфекцыйнай прыроды, у тым ліку кішачнымі інфекцыямі.

Вада можа забруджвацца патагеннымі мікраарганізмамі кішачнай групы (бактэрыямі брушнога тыфу, паратыфаў, дызентэрыі), узбуджальнікамі віруснай прыроды (поліяміэліт, інфекцыйны гепатыт, адэнавірусы і інш.).

Тэрміны выжывання ў вадзе патагенных мікраарганізмаў залежаць ад саставу і ўласцівасцяў вады, сонечнага святла, тэмпературы, наяўнасці забруджвання і прымесяў.

Асноўнай мэтай санітарна-мікрабіялагічнага даследавання вады з'яўляецца забеспячэння насельніцтва дабраякаснай вадой, для чаго праводзіцца гігіенічная ацэнка вады з пункту гледжання эпідэмічнай бяспекі для здароўя чалавека па санітарных правілах і нормах.

Па выніках лабараторных даследаванняў, якія праводзяцца бактэрыялагічнай лабараторыяй раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (РЦГіЭ), удзельная вага нестандартных па бактэрыялагічных паказчыках проб вады з шахтавых калодзежаў нашага раёна ў 1999 годзе склала 68,4%; у 2000 годзе – 49,55%; у 2001 годзе – 54%; у 2002 годзе – 44,75%; у 2003 годзе – 37,4%.

Аналіз выявіў высокую ступень сувязі паміж узроўнем захворваемасці дызентэрыяй Флекснера і ўдзельнай вагой нестандартных проб вады з шахтавых калодзежаў.

У ходзе праверак спецыялісты РЦГіЭ адзначаюць неадпаведнасць шахтавых калодзежаў патрабаванням, што прыводзіць да забруджвання вады і з'яўлення рызыкі ўзнікнення кішачных інфекцый.

У сельскай мясцовасці шырока выкарыстоўваюць грунтавыя воды з дапамогай шахтавых калодзежаў. На жаль, якасць гэтай вады часта не адпавядае санітарным патрабаванням, бо гэта вада нярэдка забруджваецца паверхневымі сцёкамі і ападкамі. Для змяншэння яе забруджвання патрабуецца, каб калодзежы размяшчаліся на высокіх месцах, на адлегласці не менш за 50 метраў ад уборных, смеццязборнікаў, двароў для скаціны, мелі шчыльны зруб (лепш бетонныя кольцы), вакол зруба ў радыусе 1-1,5 м павінны быць гліняны замок глыбінёй 2 метры з ухілам ад зруба калодзежа. Сам калодзеж павінен закрывацца векам і мець стрэшку.

Забор вады павінны праводзіцца ці з дапамогай помпы (што больш гігіенічна), ці з дапамогай калектыўнага вядра. Выкарыстанне індывідуальных вёдзер не пажадана.

Для атрымання якаснай пітной вады і зніжэння ўзроўню захворваемасці кішачнымі інфекцыямі ў раёне неабходна праводзіць штогадовую прафілактычную ачыстку шахтавых калодзежаў у вясенні перыяд.

Для гэтага цалкам выдаляецца з калодзежа вада, ачышчаецца ад рознага смецця і глею. Сценкі самой шахты ачышчаюцца механічным шляхам. Затым вонкавую і ўнутраную частку шахты паліваюць 5-працэнтным растворам хлорнай вапны.

Пасля ачысткі, рамонту і дэзінфекцыі сценак шахты прыступаюць да дэзінфекцыі самога калодзежа. Вытрымліваецца час, на працягу якога калодзеж зноў запаўняецца вадой, вызначаецца аб'ём вады ў ім (метрах кубічных) і ўносіцца неабходная колькасць раствору хлорнай вапны з разліку 100-150 г актыўнага хлору на 1 метр кубічны. Пасля ўнясення дэзінфіцыруючага раствору вада ў калодзежы перамешваецца каля 10 хвілін, калодзеж закрываецца векам. 5-6 гадзін забор вады не дапускаецца.

Пасля ўказанага тэрміну трэба пераканацца па паху, што хлор выпарыўся. Калі гэта так, то трэба дадаць у ваду 0,25 першапачатковай колькасці дэзінфіцыруючага прэпарату і вытрымліваць яшчэ 3-4 гадзіны.

Пасля паўторнай праверкі на наяўнасць хлору і станоўчых вынікаў такой праверкі праводзіцца адпампоўванне вады да знікнення рэзкага паху хлору. Толькі пасля гэтага ваду можна выкарыстоўваць для піцця.

У выпадку, калі пры санітарным абследаванні не ўдалося выявіць і ліквідаваць прычыну пагаршэння якасці вады ці чыстка, прамыўка, прафілактычная дэзінфекцыя не прывялі да стойкага паляпшэння якасці вады, вада ў калодзежы павінна пастаянна абеззаражвацца рэчывамі, якія ўтрымліваюць хлор. Неабходна адстойваць такую ваду да знікнення паху хлору. Калі немагчыма дабіцца гарантаванай якасці вады ў калодзежы, раім спажываць для піцця кіпячоную ваду.

Па магчымасці рэкамендуем выкарыстоўваць ваду пітную негазіраваную высакаякаснай ачысткі, выпускаемую нашым прадпрыемствам "Каларыт-Аква".

**Таццяна КУГАРА,**
**загадчыца аддзела камунальнай гігіены РЦГЭ.**
**Алена ВАСІЛЕВІЧ,**
**загадчыца бактэрыялагічнай лабараторыі РЦГЭ.**



**Вада – важнейшы элемент біясферы – пакінула калодзеж у вёсцы Краснае.**
Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

## Не губіце, мужыкі

**Міжнародны гандаль раслінамі і жывёламі, іх часткамі і прадукцыяй з іх прывёў да таго, што многія віды хутка знікнуць.**

Экзатычныя жывёлы і расліны прываблiваюць пакупнікоў сваім незвычайным выглядам ці проста таму, што яны рэдкія. Штогод больш за 15 мільёнаў млекакормячых, 10 мільёнаў архідэй і вялікая колькасць іншых відаў знікае з дзікай прыроды. Іх абаронай займаецца Канвенцыя па міжнародным гандлі жывёламі і раслінамі, што знаходзяцца пад пагрозай знікнення, — CITES. У Беларусі яна дзейнічае з 1995 года.

Перш, чым купіць за мяжой Беларусі жывога звера ці расліну, пацікаўцеся, якія дакументы вам неабходныя для іх перавозу праз мяжу. Супрацоўнікі мытні могуць канфіскаваць любы жывы арганізм, уключаны ў CITES, калі пры ім няма адпаведных суправаджальных дакументаў. Акрамя вялікага штрафу, парушальнік павінен будзе аплаціць кошт вяртання жывёлы ці расліны на радзіму.

**Вы ведаеце, што**

– дзікія жывёлы і расліны часцяком гінуць пры перавозцы ці з-за няправільнага догляду;

– незаконна ўвезеныя жывёлы часта бываюць заражаныя небяспечнымі хваробамі і паразітамі;

– неабходны дазвол CITES на ўвоз і вываз шкур цюленяў, кітоў, кракадзілаў, тыграў, гепардаў, леапардаў, ягуараў, мяса і ікры асятровых рыб, а таксама вырабаў са слановай косці, чорнага дрэва.

**Памятайце, што**

— дазволы CITES неабходна набываць папярэдне;

— ветэрынарных сертыфікатаў, выдадзеных звераферамамі, бывае недастаткова для легальнага ўвозу ці вывазу жывёл, якія трапляюць пад дзеянне Канвенцыі CITES;

— спісы відаў, якія з'яўляюцца аб'ектамі CITES, абнаўляюцца кожныя 2 гады.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Пра бутэлькі і не толькі

**Практычна прайшоў той час, калі малако ў шкляных бутэльках і хлеб, загорнуты ў паперу, насілі з магазіна ў баваўняных авоськах, а замест туалетнай паперы выкарыстоўвалі газеты. Перад нашымі продкамі праблема утылізацыі смецця не стаяла так востра, як перад намі.**

З аднаго боку памперсы, поліэтыленавыя пакеты, пластыкавыя бутэлькі і аднаразовыя відэльцы больш зручныя, з другога — больш шкодныя для навакольнага асяроддзя. Для таго, каб згніў адзін памперс, трэба 500 гадоў. Да таго ж існуюць спецадходы, якія трэба знішчаць па спецыяльных тэхналогіях. Да іх адносіцца прыкладна 600 небяспечных рэчываў: радыеактыўныя адходы, свінец, ртуць, мыш'як, рэшткі лакаў, фарбаў, батарэйкі.

Што можа зрабіць кожны з нас? Самае простае — не смецць вакол: высыпаць смецце ў кантэйнер, пасля пікніка забіраць усё з сабой.

Вядома, што пластыкавыя бутэлькі засмечваюць навакольнае асяроддзе больш, чым шкляныя. З другога боку, для спажыўца яны больш зручныя. Таму ў Еўропе, асабліва ў Галандыі, напоі ў вялікіх пластыкавых бутэльках каштуюць дорага. І не таму, што напой дарагі, а таму, што ледзь не палову кошту тавару складае вартасць уласна бутэлькі. Навошта так зрабілі? Для таго, каб пакупнік не выкідаў тару, дзе давядзецца, як гэта адбываецца ў нас, а здаваў на перапрацоўку. Калі б кошт бутэлькі быў такі нізкі, як у нас (хто іх панясе дзеля 5 рублёў?), шмат хто паляніўся б яе здаваць. Але паколькі вартасць адной бутэлькі прыкладна адпавядае кошту аднаго марожанага і ў паўтара раза большая за кошт «Снікерса», то яе не выкідаюць. У Галандыі ў кожнай краме адчынены пункт прыёму пластыкавых бутэлек.

А нашы нарыхтоўчыкі хочуць, каб я здаў кілаграм. Не панясу: трэба не адзін мяшок, каб сабраць гэты кілаграм пластыку.

**Уладзімір КЛЕШЧ, старшыня Маладзечанскага аддзела абароны правоў спажыўцоў.**

■ ПРА СЯБРОЎ НАШЫХ МЕНШЫХ

## Быў у хаце гаспадар

Маленькі крывалапы сабачка з'явіўся ў доме ў студзені. Яго, захутаўшы ў вялікі фартух, прынесла суседка баба Лёня і са словамі "Гадуйце!" пусціла на падлогу. "Сабачка, прыгожанькі",— кінуліся да жывёліны дзеці, якія акурат ў гэты час былі ў бабулі на канікулах.

Вечарам браць з сабой сабачку ў ложак яна не дазволіла. Жывёліне паслалі ў драўлянай скрыньцы з-пад яблыкаў і, выключыўшы святло, загадалі спаць. Недзе з гадзіну было ціха. Пасля шчаня зарухалася, стала скрэбці лапамі і вурчэць. "Іш, якое злое, — канстатавалі з радасцю дарослыя. Будзе каму двор сцерагчы".

«Цік-так, цік-так», – стукаў гадзіннік. Стрэлкі паказалі дзве, пасля тры гадзіны ночы, а ў доме ўсё гарэла святло. Бо як толькі яго выключалі, шчаня выводзіла такія рулады, хоць вушы ватай затыкай.

"Усё, заўтра будзеш начаваць у калідоры," — сказала гаспадыня. Але словам яе не суджана было збыцца. Вечарам зноў ударыў мароз, і малое пашкадавалі пакідаць у памяшканні з мінусавой тэмпературай. У тую ноч сабачка, якога дзеці назвалі "Цюка", надта ж ужо смешна цюкаў носам у талерку з малаком, зноў "спяваў". Але ніхто ўжо яго музыкі не чуў.

З кожным днём гаспадары ўсё больш і больш прывыкалі да шчаняці. "А дзе Цюка?" — пыталіся яны адно ў аднаго, калі чацверанагага свавольніка доўга не было бачна, і пачыналі шукаць па хаце. А той таксама не губляў дарэмна часу. Вывучыў дом і стаў адчуваць сябе ў ім паўнапраўным гаспадаром. Больш таго, хадзіў "у атаку" на кошку Машку. Адразу яна змагалася з нахабнікам, які лапай адганяў яе ад талеркі з малаком і хапаў зубамі за хвост. Пасля – змірылася.

"Глядзі, Машка Цюку шкадуе", — радаваліся дзеці, гледзячы на тое, як рыжы маленькі камячок грэецца пад бокам у кошкі. А як яны гулялі ў даганялкі! Бегалі з такой хуткасцю, што на вокнах гойдаліся занавескі. Прычым першай здавалася Машка. Стаміўшыся, яна ўскоквала на канапу і, пераможна падняўшы хвост, глядзела з вышыні на шчаня, якое як ні старалася, а паўтарыць яе трук не магло.

"І калі ж гэта пацяплее. Калі ж я змагу вынесці гэтага звера на вуліцу",— у чарговы раз пасля таго, як былі паскіданы ўсе накрыўкі з падушак і сцягнута з акна занавеска ў прыхожай, гаварыла раздражнёным голасам гаспадыня. Быццам бы разумеючы яе настрой, сабака залазіў у сваю скрынку-будку і сядзеў там ціха-ціха.

Вясна, якой так чакалі ў доме, нарэшце прыйшла. Але Цюку так і не пасадзілі на ланцуг. Адразу шкадавалі, пасля спатрэбіўся ў гаспадарцы. Хто б мог падумаць, што гэта малое праворнае шчаня будзе так добра пасвіць куранят. Не паспявала пярнатае кроку з двара ступіць, як ён заліваўся брэхам ці, заляцеўшы наперад, заступаў дарогу.

А ў верасні Цюка "пайшоў" у школу. Пачаўся навучальны год, і ён штораніцы праважаў сваю гаспадыню, якая працавала настаўніцай, на работу. А ў палудзень — сустракаў. Прычым, ніколі не спазніўся, быццам бы жыў па нейкім сваім ўнутраным гадзінніку.

**Марына СЛІЖ.**

■ СПАБОРНІЦТВЫ



Турнір Мядзельшчыны па падкідным дурні пройдзе ў нядзелю ў Ілаве. У ім прымуць удзел жыхары Ілава, Будслава і навакольных вёсак. Фота BYMedia.net.

# Са сваёй калодай

**МЯДЗЕЛ. Чэмпіёна Мядзельшчыны па падкідным дурні вызначаць адзінаццатыя па ліку спаборніцтвы, якія пройдуць у Ілаве ў нядзелю.**

Такія турніры арганізуюць жыхары Ілава, Будслава і навакольных вёсак два разы на год:

– Збіраемся, калі няма пільных работ на полі і дома, – гаворыць адзін з арганізатараў турніру каморнік Будслаўскага сельскага савета Пётр Хацяновіч. – Кожны прыходзіць са сваёй калодай. Сёлета плануецца ўдзел не менш за 30 чалавек.

Памяшканнне для турніру дае іласкі вінзавод, намеснік дырэктара якога Іван Януковіч сам з'яўляецца адным з завадатараў турніру адной з самых папулярных у вёсках і гарадах Беларусі гульняў.

Мікола ГАЙДУК.

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Падатак на мабільную сувязь

**Старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па жыллёвай палітыцы, будаўніцтве, гандлі і прыватызацыі Васіль Хрол прапануе ўраду ўвесці з 2004 года 18-працэнтны падатак на дададаную вартасць для карыстальнікаў мабільнай сувяззю. Пра гэта дэпутат заявіў 28 лістапада.**

Як лічыць В.Хрол, уладальнікі сотавых тэлефонаў, якіх у Беларусі ўжо больш за 1 мільён, не адносяцца да катэгорыі маламаёмных грамадзян і лёгка перанясуць новы падатак.

Паводле разлікаў парламентарыя, увядзенне ПДВ на мабільную сувязь прынесла б у бюджэт краіны каля 60 мільёнаў долараў ЗША.

У інтэрв'ю БелаПАН В.Хрол сказаў, што яго прапанова прадыктавана імкненнем дапамагчы маламаёмным грамадзянам.

Віцэ-прэм'ер А.Цюцюноў назваў прапанову парламентарыя «цікавай», аднак тут жа дадаў, што не з'яўляецца прыхільнікам больш жорсткай фіскальнай палітыкі і ўвядзення новых падаткаў.

Паводле слоў віцэ-прэм'ера, у Беларусь, наадварот, трэба «пусціць» 4—5 аператараў мабільнай сувязі, каб гэтыя від паслуг былі даступны ўсім грамадзянам краіны.

Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Атрымалі дыплом

**У рэспубліцы ўпершыню прайшоў конкурс пад дэвізам "Пазнай Беларусь". Яго мэта – далейшае развіццё ўсіх відаў турызму ў рэспубліцы.**

Удзельнікамі конкурсу былі турысцкія фірмы, экскурсійныя бюро па турызму, турысцкія клубы. У намінацыі "За развіццё самадзейнага турызму ў Беларусі" ўзнагароджаны дыпломам маладзечанскі турысцкі клуб "Пілігрым". Дыплом падпісаны старшынёй журы, міністрам спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Юрыем Сіваковым. У сталічным Палацы рэспублікі для ўдзельнікаў конкурсу быў дадзены святочны канцэрт.

Сяргей БЯЛКОЎ.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Мужчына са зброяй

**МАЛАДЗЕЧНА. На вуліцы Янкі Купалы супрацоўнікі міліцыі злавілі мужчыну са зброяй.**

Гэта быў самаробны рэвальвер. Затрыманы мае судзімасць за выраб і захоўванне зброі. Узбуджана крымінальная справа.

## Загінуў чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА. 4 снежня загінуў у агні мужчына, што наймаў для сябе жылы дом у Лебедзеве.**

Пасля пажару засталіся абгарэлыя сцяна і ложак. Прычына — курэнне ў нецвярозым стане.

## Малыя злодзеі

**МАЛАДЗЕЧНА. Нячыстыя на руку людзі залезлі ў хлеў жыхаркі Вязаўца.**

Украдзеныя запчасткі да аўтамабіля. Гэта зрабілі два непаўналетнія аднавяскоўцы.

## Падпаліў кватэру

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю вечарам загарэлася кватэра ў 2-кватэрным доме па Мінскім завулку.**

Мяркуецца, што жыллё падпаліў сужыцель гаспадыні.

## Пасварыліся

**МАЛАДЗЕЧНА. 8 снежня няўдала скончылася сварка паміж айчымам і падчаркай.**

Яе шпіталізавалі ў цэнтральную гарадскую бальніцу.

По зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў г.Маладзечна матэрыял да друку падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

## Калодзеж...

**АСТРАВЕЦ. Калі астраўчанін даставаў з калодзежа ваду, абарвалася вядро. Мужчына спрабаваў дастаць яго і сам зваліўся ў калодзеж.**

Адтуль ён ужо выбіраўся пры дапамозе супрацоўнікаў райаддзела надзвычайных сітуацый, якіх выклікалі суседзі.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

## Шукаюць сведкаў

16 чэрвеня каля 13 гадзін на вуліцы Б.Хмяльніцкага, ля цэнтральнага рынку ў Маладзечне, у выніку наезду веласіпеда атрымала цялесныя пашкоджанні грамадзянка Капцёнак З.А. Тых, хто бачыў здарэнне, просьба патэлефанаваць у ГРАУС па тэлефонах: 5-44-44, 7-08-22.

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Будзе летапіс

**ВІЛЕЙКА. Вучні мясцовай школы пачалі падрыхтоўку да ўдзелу ў рэспубліканскім фестывалі "Дзень зямлі. Беларусь 2004". Дзеці распрацоўваюць краязнаўчы маршрут, малююць, пішуць літаратурныя творы і сачыненні, складаюць радаводы, прыдумваюць сюжэты сцэнарыяў.**

А яшчэ школа піша летапіс партызанскай брыгады імя Фрунзе, якая дзейнічала ў Ільянскім раёне.

Члены гуртка "Памяць", звяртаючца да былых партызан брыгады, падпольшчыкаў, удзельнікаў вайны і просяць расказаць пра сябе, даслаць свае ўспаміны.

Уладзімір КАЖАМЯКА, кіраўнік гуртка "Памяць".

## Прайшла акцыя

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 снежня ў дзень 55-годдзя прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека члены Беларускага дэмакратычнага аб'яднання "Ветэран" нагадалі аб гэтай падзеі. Ля помніка Міколу Ермаловічу яны правялі акцыю, падчас якой раздалі маладзечанцам і гасцям горада 238 асобнікаў Дэкларацыі.**

Генеральная Асамблея ААН заклікала рабіць усё магчымае для распаўсюджвання і распаўсюду Дэкларацыі.

Марына СЛІЖ.

■ ПРАБЛЕМА

# Трагічных выпадкаў большае

**МАЛАДЗЕЧНА. На 1 снежня гэтага года па міжраённай інспекцыі працы, якая працуе ў Вілейскім, Валожынскім, Маладзечанскім і Мядзельскім раёнах, зарэгістравана 110 няшчасных выпадкаў на вытворчасці, у тым ліку 5 – са смяротным зыходам і 32 – з цяжкім. Згодна са статыстыкай, смерцяў стала менш (у 1994 годзе было 20), выпадкаў таксама менш (у 1998 годзе зафіксавана 239 выпадкаў), цяжкі траўматызм вырас да абсалютнага рэкорду – столькі ў нас яшчэ не было.**

Прычын шмат: і зношанасць машын, абсталявання, будынкаў, і слабая работа службаў аховы працы па выяўленні і ліквідацыі недахопаў, і нізкая кваліфікацыя работнікаў, якія абавязаныя сачыць за станам абсталявання і рабочых месцаў. Але сёння мы выдзяляем адну, якая ўплывае на бяспеку працы. Гэта парушэнні працоўнай і вытворчай дысцыпліны самімі работнікамі.

13 жніўня раніцай на зерняскладзе СУВП "Забудова-Агра" знайшлі работніка, які ляжаў пад лесвіцай са шматлікімі пераломамі. Змена, у якой працаваў пацярпелы, была адпушчана дамоў каля 1 гадзіны ночы. Усю ноч на тэрыторыі зерняскладa дзяжурылі спецыялісты, якія ці то чулі, ці то не чулі, як за закрытымі дзвярамі памяшканняў хтосьці спяваў, стагнаў і хроп. Дзяжурныя не пацікавіліся і раніцай пайшлі дадому. Паколькі ўсё адбылося на тэрыторыі прадпрыемства, панеслі пакаранне службовыя асобы.

16 жніўня загінуў пад гусеніцай бульдозера работнік ПМК-32, які разам з брыгадай працаваў у Доўцавічах на добраўпарадкаванні тэрыторыі фермы СВК "Бярэзіна". Да абеду працавалі, у абед бульдазерыст добра прыклаўся да бутэлькі, а калі пайшоў заводзіць бульдозер, то забыўся праверыць каробку пераключэння перадач. Пасля запуску рухавіка бульдозер пайшоў уперад, рука чалавека, які стаяў на гусеніцы, трапіла пад каток і рабочага зацягнула пад гусеніцу.

3 верасня ў пасёлку Чысць на будаўніцтве жылога дома з 4-га паверха выпала 57-гадовая жанчына, якая працавала тынкоўшчыцай. Ад атрыманых траўм памерла. Аналіз паказаў сярэднюю ступень ап'янення.

21 кастрычніка двое рабочых дыстанцыі пуці паабедалі з моцнымі напіткамі. Аднаго рабочага майстар пасля абеду адхіліў ад работы, бо заўважыў у яго прыкметы ап'янення, і адправіў у бытоўку пераапранацца. Другі пайшоў разам з ім і атрымаў ад "таварыша" ўдар нажом у жывот.

Усе гэтыя выпадкі адбыліся на вытворчасці, у рабочы час. Заканадаўства абавязвае наймальніка адхіліць ад работы работніка, які знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, таму разам з аматарамі выпіўкі пацярпелі і непасрэдна кіраўнікі, якія не забяспечылі выкананне патрабаванняў Працоўнага Кодэкса. Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнуты дзяжурныя зерняскладa "Забудова-Агра", вымову і адміністрацыйны штраф атрымаў прараб ПМК-213, звольнены галоўны інжынер і галоўны механік ПМК-32. Да прадпрыемстваў прыменены эканамічныя санкцыі.

Статыстыка пацвярджае: выкараненне п'янства на рабоце дазволіць знізіць узровень вытворчага траўматызму не менш, чым у 2 разы. Удумайцеся: за апошнія 2 гады ў Маладзечанскім раёне загінула на вытворчасці 6 чалавек, і ўсе, як адзін, знаходзіліся на рабоце ў нецвярозым стане. Нявінныя "слабасці" адных цягнуць за сабой трагедыі ў сем'ях, страты кармільцаў, ламаюць лёсы кіраўнікоў, фінансавыя страты цяжка падлічыць.

Расследаванне няшчаснага выпадку на вытворчасці патрабуе выплаты заработнай платы на працягу 10 дзён інспектару і тым, з кім ён працуе, афармлення дакументаў агульным аб'ёмам прыкладна ў пачак паперы, расходы на транспарт, правядзенне экспертызы, работу дактароў і інш. Дадайце сюды страты той прадукцыі, якую недаатрымалі з-за брака, дапушчанага п'яным работнікам.

Віктар ШАБАЛІН, дзяржаўны інспектар працы Маладзечанскай міжрайінспекцыі працы.

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Так будавалася чыгунка

**Прачытаўшы артыкул Любові Карповіч ("РГ" ад 3 кастрычніка, №40) "Ад паравоза да электравоза", можна зрабіць вывад, што Маладзечна ў канцы XIX і асабліва з сярэдзіны XX стагоддзя атрымала сваё далейшае развіццё дзякуючы пабудаванай тут чыгунцы. Аднак гэтага магло і не быць, бо першапачаткова ўчастак Ландварава-Роменскай чыгункі ад станцыі Нова-Вілейка да Мінска быў запланаваны па накірунку Ашмяны-Баруны-Гарадок. І толькі ў апошні момант ён быў зменены на Смаргонь-Маладзечна.**

## Экскурс у гісторыю

Упершыню рэгулярны рух па дарозе такога тыпу адбыўся 27 верасня 1825 года, калі Джордж Стэфансан з сярэдняй хуткасцю 19 км/гадз. правёў свой паравоз "Лакамаўшэн" з цягнікам у 33 вагоны з пасажырамі і 90-тонным грузам па 56-кіламетровым чыгуначным шляху паміж англійскімі гарадамі Стоктанам і Дарлінгтонам. Затым новае тэхнічнае вынаходства хуткімі тэмпамі пачало ўкараняцца ў ЗША, Францыі, Бельгіі, Аўстрыі і Германіі. Расія стала толькі 6-й краінай у свеце, дзе ў 1837 годзе адкрылася аднакалейная, даўжынёй 27 кіламетраў, Царскасельская чыгунка.

Важным аргументам, які паўплываў на рашэнне імператара Мікалая І будаваць наступнай чыгунку Вена-Варшава (тады Варшава ўваходзіла разам з польскімі землямі ў склад Расійскай імперыі), стала нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1830-1831 гадоў у Беларусі, Літве і Польшчы. Дабіваючыся канцэсіі на будаўніцтва Царскасельскай чыгункі, аўстрыйскі падданы Антон фон Герстнэр яшчэ ў 1835 годзе так і даводзіў цару: "Калі б Пецярбург, Масква і Гродна ці Варшава былі злучаны чыгункай, можна было б пакараць мяцежнікаў палякаў у чатыры тыдні". Вышэй указаная чыгунка да Варшавы ўступіла ў строй у 1848 годзе, а ў 1862 годзе яна была прадоўжана да Санкт-Пецярбурга праз Вільню.

## Чыгунка ў Беларусі

Гродна стаў першым беларускім горадам, які адчуў на сабе перавагу тэхнічнай рэвалюцыі на транспарце.

Другім беларускім горадам, які далучыўся да чыгуначнай цывілізацыі, стаў Віцебск. Праз яго праклалі Рыга-Арлоўскую чыгунку, якая ўваходзіла ў строй участкамі ў 1866-1868 гадах. У 1987 годзе чыгунка дасягнула і Брэста. І толькі праз год адкрыўся рэгулярны рух са Смаленска на Брэст праз Мінск. 1871 год і стаў годам заснавання Беларускай чыгункі, хаця, фактычна, гэта адбылося на 9 гадоў раней. І дзеля справядлівасці неабходна было б вярнуцца да першапачатковай даты.

Разглядаўся і іншы варыянт пракладвання чыгункі ад Смаленска на Брэст праз Магілёў-Бабруйск-Пінск. Аднак тагачасны намеснік у Царстве Польскім генерал-фельдмаршал Фёдар Берг у 1867 годзе дэталёва растлумачыў прывілею першага варыянту. "В политическом отношении дорога через Литву в Москву может быть лучше всяких других средств будет способствовать обрусению Северо-Западного края, перенося центр тяжести из Варшавы, с которой сообщение довольно удобно, в Москву, с которой таковое затруднительно. Это смутно чувствуют здешние польские патриоты, несочувствуя устройству дороги на Москву...".

## Вузлавая станцыя Мінск

У сувязі з увядзеннем ў эксплуатацыю 14 студзеня 1873 года ўчастка Нова-Вілейка-Мінск Ландварава-Роменскай чыгункі Мінск стаў першай у Беларусі вузлавой станцыяй. А Маладзечна сёлета адзначыла не толькі 100-годдзе лакаматыўнага дэпо, але і 130-годдзе з дня адкрыцця праз яго станцыю транзітнага руху. На гэтай лініі дзейнічала 8 прамежкавых станцый. Сярод іх Слабодка (цяпер Гудагай), Солы (цяпер Ашмяны), Залессе, Маладзечна, Краснае (у 1876 годзе атрымала новую назву Уша), Радашкавічы і Ратамка. Пераканаўшыся ў вялікай выгадзе ад выкарыстання ў народнай гаспадарцы чыгункі, паступова ставіліся пытанні аб адкрыцці тут новых раздзельных пунктаў-паўстанкаў. Так у 1878 годзе гэта адбылося ў Аляхновічах. Па просьбе жыхароў Лебедзева праз 2 гады паўстанак быў адкрыты ў Прудах. З 1 верасня 1896 года платформу Заслаўя, якая была пабудавана для прыёму і высадкі пасажыраў з ручным багажом, перайменавалі ў паўстанак Ізаслаўе. Пазней яна была перайменавана ў станцыю Беларусь.

Восенню 1895 года быў адкрыты для руху ўчастак новай вузкакалейнай чыгункі ад Свянцян да Пастаў, якая праз 2 гады была прадоўжана да Беразвеч (Глыбокага). У той час у Свянцянскі павет уваходзілі часткі тэрыторый сучасных Вілейскага, Астравецкага, Мядзельскага і Смаргонскага раёнаў. Шырыня каляі гэтай дарогі складала 75 см, а на чыгунках Расійскай імперыі яна была роўная 152,4 см. Хуткасць руху на ёй дасягала 25-30 км/гада. Затым падобныя вузкакалейкі сталі пракладваць у Прыбалтыцы і на Украіне.

У канцы XIX стагоддзя такія веткі праектаваліся ад станцыі Лынтупы (Пастаўскі раён) праз Свір (24 вярсты) на Смаргонь і ад Лынтуп на Шэметава-Іжу-Маладзечна. Шкада, што яны так і не былі пабудаваныя.

Пяць гадоў, з 1902 па 1907 год, будаваўся ўчастак 2-калейнай лініі Полацк-Сядлец (даўжынёй 590 вёрст), які прайшоў праз Вілейку-Маладзечна-Ліду-Масты. Кіраўніком гэтай будоўлі быў буйнейшы спецыяліст у гэтай галіне Уладзімір Цімафееў-Расоўскі.

У сувязі з тым, што па гэтай лініі была пабудаваная каля Вілейкі новая станцыя з аднайменнай назвай, то на Лібава-Роменскай (новая назва Ландварава-Роменскай) чыгунцы станцыя Вілейка была перайменавана на Нова-Вілейку (цяпер Нова-Вільня).

## Штуршок у будаўніцтве

З 1913 года пачаліся работы па ўдваенню каляі на лініі Мінск-Нова-Вільня і іншых напрамках. Першая сусветная вайна дала новы штуршок у но-



Вілейка. Вакзал да 1913 года. Фота з архіва «РГ».

вым будаўніцтве і ўдасканаленні існуючай чыгуначнай гаспадаркі, якая была падзелена на 2 раёны – Заходні і Усходні. Заходні падпарадкоўваўся Ваенна-Палявому Упраўленню. У 1916 годзе была пабудавана ракадная лінія Глыбокае-Крулеўшчына (тады станцыя Саслаўя). На год раней пачалася будавацца лінія Мінск-Ракаў-Івянец-Ліда. Аднак Свянцянскі (1915 год) прарыў немцаў і ўстанаўленне новай лініі фронту, а затым пераход часткі дадзенай тэрыторыі пад Польшчу, не дазволілі закончыць гэту важную работу.

Такія станцыі, як Вайгяны (цяпер Багданаў), Гудагай, Солы, былі заняты непрыяцелем, а станцыя Лістапады была разбурана агнём нямецкай артылерыі. Замест яе ў бок Маладзечна была пабудавана новая станцыя Гародзькі (цяпер станцыя Валожын), ад якой правялі ракадную вузкакалейку на паравой цязе на Мікулаўшчыну-Казімава-Каскевічы-Маркава да Прудоў.

Ад станцыі Маладзечна дзейнічала конная вузкакалейка на Самалі-Устрань, а ад станцыі Залессе праз Вілію – на Ардзяю-Загалле-Калбею. Санітарная вузкакалейка даходзіла да вёскі Міцкевічы (цяпер Смаргонскі раён).

На станцыі Вілейка на цэлы састаў была пабудаваная асобная ветка на чыгуначныя майстэрні, а ў стары кар'ер – ветка для адстою вагонаў са снарадамі. Новую вузкакалейку на паравой цязе даўжынёй у 40 км ваенныя чыгуначнікі праклалі праз Любань на Нарочу ў бок Рускага Сяла. Ад Любані ўжо на коннай цязе да вёскі Каралеўцы.

Станцыю Крывічы (цяпер Княгінін) конна-палявая вузкакалейка звязала праз Талуць з вёскай Слабада (на рацэ Нарачанка). Акрамя таго ў Слабадзе было пабудавана станцыйнае памяшканне і шпітальная ветка даўжынёй 424 сажні (903 метры). Тут пачынала сваю ваенную кар'еру адзіная ў той час жанчына-салдат па клічцы Яшка, спецыяльны дазвол на службу якой даў імператар Мікалай II. Пазней яна стала вядомым ваенным дзеячам Расіі, арганізатарам і камандзірам першага жаночага ўдарнага батальёна смерці. Гэта Марыя Бачкарова. Са сваім батальёнам яна гераічна змагалася ў 1917 годзе пад Смаргонню, Крэвам. Неаднаразова была паранена, узнагароджана поўным бантам Георгіеўскіх крыжоў і медалёў.

Вясной 1916 года да пачатку Нарачанскай аперацыі рускай арміі была пабудаваная 20-верставая дарога шырокай каляі з новай станцыі Крывічы-Ваенная (1,5 км ад Княгініна) праз вёску Сваткі да Брусоў. Ад станцыі Буслаў, дзе спачатку знаходзіўся штаб 2-й арміі Заходняга фронту, адышла конна-палявая вузкакалейка на Баяры (паміж азёрамі Мядзель і Мястра) даўжынёй у 36,5 вярсты, а ад станцыі Радашкавічы такая ж 50-верставая дарога вяла на Пяршаі-Валожын. У Пяршаях ад яе адгаліноўвалася 34-верставая лінія на Івянец-Дайкова-раку Каменка.

Такім чынам у нашым рэгіёне было дадаткова пабудавана каля 300 кіламетраў чыгуначных дарог, якія адыгрывалі значную ролю ў забеспячэнні ўсім неабходным цэнтральных участкаў Заходняга фронту рускай арміі.

У тыле нямецкай арміі таксама вяліся работы па будаўніцтве новых чыгуначных ліній. Аднак праціўнік прымяніў тут больш прагрэсіўную методыку, рэкамендаваную рускім інжынерам Лебедзевым яшчэ ў 1907 годзе. Так была пракладзена ракадная лінія вялікай працягласцю ад станцыі Ігналіна праз Відзы-Гадуцішкі-Міхалішкі-Крэва-Багданава да Бакштаў, ад якой адходзілі сілкавальныя і злучальныя веткі.

Першая сусветная вайна пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі перарасла ў грамадзянскую. Наш рэгіён зноў акупіраваўся немцамі, а затым два разы белапалякамі. Пасля чарговага выгнання акупантаў пачыналася аднаўленне разбуранай гаспадаркі, у тым ліку і на чыгунцы.

## Арганізаваны суботнік

3 верасня 1920 года ў Вілейцы адбыўся вялікі суботнік па аднаўленні разбуранай белапалякамі чыгуначнай станцыі. Вось як пісала тады аб гэтай падзеі газета "Звязда" за 11 верасня таго ж года: "...арганізаваны грандыёзны суботнік пакінуў добрыя ўражанні ў абывацелей горада. У 5 гадзін вечара з двара Рэўкома (там жа размяшчаўся і камітэт партыі) стройнымі радамі з венікамі і рыдлёўкамі рухаліся ўдзельнікі пад гукі марша мясцовага аркестра па накіраванні да разбуранай белапалякамі станцыі. Прыемна было бачыць, з якім сур'ёзным выражэннем і як стройна ішлі гэтыя калоны, сярод якіх было шмат жанчын-работніц і савецкіх служачых. Усіх удзельнікаў у суботніку было звыш 310 чалавек, якіх па арганізацыях можна было размеркаваць так: камуністы, за выключэннем адсутных у камандзіроўцы – усе, прафсаюзы савецкіх служачых – 70 чалавек, батальён войск чыгуначнай аховы – 61 чалавек, мясцовая пажарная каманда – увесь састаў, чыгуначнікі – 80 чалавек. Працавалі з 6 да 8 гадзін вечара. Выгрузілі кузаў для пасажырскага будынка, перайшлі з вузкакалейнага на шырокі пуць – 150 сажаняў (1 сажань роўны 213,36 см), столькі ж ачысцілі ад смецця і бруду, сабралі і ўклалі цэглу ад узарванай белапалякамі вадакачкі ў колькасці 420,5 кубічных аршынаў (1 аршын роўны 0, 7112 м). Пасля заканчэння работы ўсе ўдзельнікі былі запрошаныя на мітынг у кінематограф, які размясціўся на адкрытым паветры пры станцыі. Дзякуючы такой згуртаванасці грамадзян можна будзе ў кароткі тэрмін выправіць усе тыя разбурэнні, якія нарабілі каварныя белапалякі ў Вілейцы".

## У складзе Рэчы Паспалітай

У выніку Брэсцкага мірнага дагавора наш рэгіён апынуўся ў складзе II Рэчы Паспалітай. У Заходняй Беларусі чыгуначная палаца была "першыга" па заходнееўрапейскаму стандарту. Пачалося інтэнсіўнае будаўніцтва новых чыгунак. Спачатку ў 1932 годзе ўвайшла ў строй 89-кіламетровая лінія Варапаева-Друя, а пазней вузкакалейная дарога Свянцяны-Лынтупы-Кабыльнік (Нарач), якая была ліквідаваная ў пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя.

У перыяд з 1921 па 1939 гады гэта дарога прычапілася да развіцця турызму на возеры Нарач, каля яе паслугамі карысталіся шматлікія адпачываючыя. Добра служыла яна людзям і ў 40-50-я гады, калі праезд каштаваў усяго некалькі капеек. Рашэнне пра ліквідацыю гэтай лініі было прынята ў сувязі з развіццём аўтобуснага транспарту. Спачатку старую дарогу планавалі перадаць у карыстанне мясцовым школам накшталт Мінскай дзіцячай чыгункі. Большасць дырэктараў школ выказалася за гэты праект, апроч аднаго, што і вырашыла далейшы лёс дарогі. Мясцовыя жыхары разабралі яе ўсяго за некалькі дзён.

Пасля здачы ў эксплуатацыю ў 1907 годзе ўчастак дарогі ад Балагоя да Ваўкавыска быў перададзены Мікалаеўскай чыгунцы. Праз тры гады ўчастак Ваўкавыск-Полацк перайшоў у склад Палескай дарогі. У сувязі з тым, што ўчастак ад Маладзечна да Полацка ў 1915 годзе быў адрэзаны ад асноўнай сеткі Палескай дарогі, яго на час перадалі Рыга-Арлоўскай дарозе.

Пасля 17 верасня 1939 года вышэй указаная дарога ўвайшла ў склад Беластоцкай чыгункі. Начальнікам станцыі Вілейка быў назначаны чыноўнік, прозвішча якога вельмі дакладна падыходзіла да выбраным ім прафесіі, – Гудок.

**Анатоль РОГАЧ.**
**Вілейка.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Чарговы старт «Залатой мілі»

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйныя бегавыя спаборніцтвы "Залатая міля" сабралі 5-6 снежня ў лёгкаатлетычным манежы дзесяць каманд амаль з усіх абласцей краіны. З рэгіёну наведаліся ашмянцы, валожынцы і смаргонцы.**

У пятніцу праводзіліся эстафеты 4 па 400 метраў. У іх маглі браць удзел трое хлопцаў і адна дзяўчына незалежна ад узросту. У адсутнасць некаторых каманд, прыехаўшых толькі назаўтра, напрыклад, смаргонцаў і ашмянцаў, перамаглі навапалачане. Другое і трэцяе месцы занялі два калектывы гаспадароў. У складзе лепшага з іх былі Сяргей Зелянко, Андрэй Кушнір, Дзмітрый Пракапеня і Таццяна Палынь. Таксама два склады выставіў Валожынскі раён. Лепшы з іх стаў пятым.

У суботу праходзілі асабістыя старты для розных узростаў: два юнацкія раздзелы (13-14 і 15-16 гадоў), юніёры (17-18 гадоў) і дарослыя, дзе, дарэчы, дзяўчаты не выступалі. Самыя юныя ўдзельнікі (12-13 гадоў) пераадольвалі не адну мілю (1609 метраў), а адну вярсту (1097 метраў).

У маладзечанцаў першымі месцамі вызначыліся Сяргей Гарадзецкі (12-13), Алёна Семкіў і Павел Вашынка (па 16-17), Дзяніс Гіль (17-18). Апошні, між іншым, перамог у абсалютным заліку, апярэдзіўшы пераможцу сярод дарослых.

Сярод іншых прадстаўнікоў рэгіёну прызавыя месцы на рахунку Аляксандра Тамялойца (Ашмяны, 2-е месца, дарослыя), Аксаны Коўш (Валожын, 2-е месца, 16-17), Уладзіміра Шунякова (Смаргонь, 3-е месца, 14-15).

Галоўны суддзя турніру Леанід Арцемьеў штогод сочыць за рэкорднымі паказчыкамі часу. Сёлета такое дасягненне зафіксавана ў Марыны Сіняковай (14-15) з Дуброўна Віцебскай вобласці.

Варта зазначыць, што арганізатары турніру прадаставілі спартсменам каштоўныя прызы: ад мяккіх цацак да звышсучаснага тэрмаса і грошай.

## Узнагароды з Калінінграда

Як павялося ў апошнія гады, на міжнародныя спаборніцтвы ў самы заходні расійскі горад ездзілі маладзечанцы і смаргонцы. Усяго там тры тыдні таму сабраліся 19 каманд з пяці краін. Беларусь прадстаўлялі 5 каманд. Удзельнічалі юнакі і дзяўчаты 1987 г.н. і малодшыя.

З Маладзечна выступалі шэсць чалавек. Дзмітрый Жыжла (трэнер Алена Жыжла) перамог у скачках у вышыню і стаў трэцім у трайным скачку. Уладзімір Кісліцкі (трэнер Уладзімір Кавалец) перамог у штурханні ядра і стаў трэцім у кіданні кап'я. Алёна Харытон (трэнер Уладзімір Ляшчынскі) перамагла ў кіданні кап'я. Павел Крушынскі (трэнер Пётр Лісоўскі) стаў трэцім на дыстанцыі 3 км.

Са Смаргоні выступалі дзесяць чалавек. Мікалай Баран (трэнер Аляксандр Капцюх) заняў трэцяе месца ў бегу на 800 м. У той жа дысцыпліне таксама трэцяе месца заняла Наталля Грыневіч (трэнер Станіслаў Барташэвіч). Яшчэ адно трэцяе месца мае на сваім рахунку эстафета дзяўчат — 4 па 200 м.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ЮНАКІ

## Цікавы турнір

**МАЛАДЗЕЧНА. Чатыры каманды юнакоў 1990 г.н. згулялі ў адзін круг 1-3 снежня на стадыёне СШ№5. Прызы – крыштальны кубак камандзе-пераможцы і крыштальныя вазы лепшым гульцам – прадаставіў ФК "Маладзечна-2000" са сродкаў, атрыманых ад УЕФА на развіццё дзіцячага футбола.**

1. ДЮСШ-Белкард (Гр.) .. 6
2. ДЮСШ (Маладзечна) .. 6
3. ДЮСШ (Ліда) .............. 6
4. ДЮСШ (Смаргонь) ...... 0

Судзілі турнір мацнейшыя маладзечанскія арбітры Віктар Дзмітрачкоў, Уладзімір Асіпенка, Ігар Крук, Яўген Цярэшчанка. Таймы доўжыліся па 35 хвілін.

За першае месца разгарнулася цікавая барацьба. У яе не змаглі ўключыцца толькі смаргонцы, якіх прывёз трэнер Уладзімір Беніцэвіч. Астатнія каманды набралі аднолькавую колькасць ачкоў, таму прыйшлося падлічваць розніцу забітых і прапушчаных мячоў у сустрэчах паміж імі. Вызначальнай аказалася гульня, праведзеная яшчэ ў першы дзень, калі гродзенцы перамаглі 5:2 гаспадароў, выхаванцаў трэнера Аляксандра Гармазы. Апошнія з такім жа самым лікам пераўзышлі лідчанаў, але гэтага было недастаткова.

Лепшымі ў сваіх амплуа названы варатар Марэк Гербець (Ліда), абаронца Мікалай Сосін (Гродна), паўабаронца Уладзімір Кімежук (Смаргонь), нападаючы Сяргей Космач (Маладзечна). Дарэчы, форвард гаспадароў забіў больш за іншых – 5 галоў, а яго партнёр Антон Капцюг вызначыўся 4 разы.

Завуч ДЮСШ Віктар Дзмітрачкоў расказаў, што ўсе госці засталіся задаволеныя арганізацыяй турніру. Напрыклад, гродзенцы адзначалі, што ў іх няма базы, падобнай той, якую мае Маладзечанская ДЮСШ.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КАРАТЭ

## Поспехі Максіма Вяля

**МАЛАДЗЕЧНА. Першынство краіны па традыцыйным каратэ (правілы міжнароднай федэрацыі WKF), прысвечанае 85-годдзю крымінальнага вышуку РБ, праходзіла ў сталіцы 6-7 снежня. Трэнер маладзечанскага клуба "Сакура" Сяргей Хадасевіч вазіў сем сваіх выхаванцаў, а ўсяго там сабралася каля васьмісот удзельнікаў, для якіх былі пакладзеныя чатыры татамі.**

Найлепш выступіў Максім Вяль (СШ№1). Ён перамог у раздзеле кумітэ сярод 12-13-гадовых равеснікаў у вагавай катэгорыі звыш 45 кг, выйграўшы ўсе свае восем паядынкаў. Таксама можна адзначыць Наташу Цялюкіну (гімназія-каледж – былая САШМ), якая ў спаборніцтве 10-11-гадовых дзяўчат дабралася да паўфіналу, і іншых.

Некалькі месяцаў таму Максім Вяль у складзе зборнай краіны (каманднае кумітэ; узрост 12-13 гадоў) заваяваў другое месца на чэмпіянаце Еўропы. З пяці праведзеных там паядынкаў ён выйграў чатыры, прынёсшы камандзе значную карысць. Спаборніцтвы праходзілі ў Кіеве пад эгідай міжнароднай федэрацыі шотокан каратэ-до WSKF.

Сяргей Хадасевіч заснаваў клуб "Сакура" ў 1998-м годзе. Ён пачаў займацца каратэ ў дваццаць гадоў у эстонскім Таліне, быў у кумітэ прызёрам чэмпіянату СССР і міжнародных турніраў, чэмпіёнам Беларусі. З выхаванцаў яго клуба найлепшых поспехаў дагэтуль дасягнуў Арцём Філанюк, які двойчы станавіўся прызёрам на "Еўропе" ў сваім узросце, а цяпер трэніруецца ў Мінску, вучыцца ў педагагічным універсітэце.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**




**На першынстве краіны па традыцыйным каратэ, прысвечаным 85-годдзю крымінальнага вышуку Рэспублікі Беларусь, добра выступіў Максім Вяль з Маладзечна.**

Фота Святланы ЦІШКО.

■ ФУТБОЛ, ЛЕГІЯНЕРЫ

# Снежань: у футбалістаў — канікулы

**Згодна з кліматычнымі умовамі на пастсавецкай прасторы, футбольны сезон завяршаецца ў лістападзе.**

Падрыхтоўку да новага сезона ў камандах распачынаюць у асноўным пасля навагодніх святаў. Такім чынам, у прафесійных футбалістаў снежань становіцца месяцам адпачынку. Для тых з іх, хто завецца легіянерам, гэта значыць, выступае ўдалечыні ад родных мясцін, не будзе лепшай магчымасці, каб прыехаць дадому, наведаць блізкіх і сяброў. Пры гэтым у кожнага свае ўласныя важныя турботы, на вырашэнне якіх іншага часу і не знайсці.

## Павел Бяганскі

Раней у "РГ" не было падрабязнага расказу пра гэтага нападаючага барысаўскага БАТЭ і маладзёжнай зборнай краіны. Папярэдне напісаўшы здароўя 22-гадовага форварда з бліскучым выступленнем зборнай, нельга было не папрасіць яго распавесці пра сябе, пра тое, што звязвае з нашым рэгіёнам.

– Я з пасёлка Людвінова Вілейскага раёна. Маці, Зоя Іванаўна, і бацька, Вікенцій Паўлавіч, працуюць у сельгаспрадпрыемстве "Беларускі", брат, Сяргей, – пажарны. Ён крыху старэйшы за мяне, і менавіта па яго прыкладу я пачаў займацца футболам у Маладзечанскай ДЮСШ з васьмага класа. Потым быў перапынак, а калі пасля дзевятага класа паступіў у палітэхнікум, то даволі выпадкова сустрэў на вуліцы свайго трэнера Аляксандра Гармазу. З таго моманту не прайшло і года, як ён перадаў мяне ў РВАР. Я скончыў гэта вучылішча, дарэчы, сёлета адважыўся паступіць у Акадэмію фізічнай культуры. З жаніцьбай хацеў бы пачакаць, хаця сяброўка пастаянная ёсць.

Павел пачаў выступаць за БАТЭ з 2001 года (кантракт дзейнічае да 2006 года), стаў сёлета яго лепшым бамбардзірам. Зараз не выключае таго, што ў хуткім часе зменіць каманду. За маладзёжку пачаў выступаць летась, усяго ўжо правёў у яе складзе 15 матчаў, забіў 4 галы. Сёлета прыняў удзел у 6 з 7 афіцыйных сустрэчах і ў абодвух таварыскіх, забіў аднойчы: напачатку лета галандцам.

Былі ў Паўла два ўрачыстыя ўшанаванні. Спачатку ў складзе маладзёжнай зборнай разам з партнёрамі прымаў каштоўныя прэміі ад рэспубліканскай федэрацыі за выхад у фінальную частку кантынентальнага першынства. Там яны пачулі афіцыйную задачу-мінімум трапіць на "Еўропе" ў тройку мацнейшых, каб атрымаць права выступіць на Алімпійскіх гульнях, дзе паставараюцца выканаць ужо задачу-максімум – заваяваць медалі. Дарэчы, алімпійская зборная зможа ўзмацніцца трыма гульцамі любога ўзросту.

Потым у складзе БАТЭ наш зямляк прымерваў сярэбраныя ўзнагароды прайшоўшага чэмпіянату краіны.

Гульцы БАТЭ напачатку снежня рэгулярна збіраліся на трэніроўкі па жаданні. З 10-га чысла Бяганскі разам з сябрамі-футбалістамі ў выключна мужчынскай кампаніі паехаў на адпачынак у Егіпет. Падтрымліваць спартыўную форму прадоўжаць пасля 25 снежня, а рэгулярная перадсезонная падрыхтоўка ў барысаўчан распачнецца з сярэдзіны студзеня.

## Уладзімір Карыцька

Думаецца, 24-гадовы маладзечанец чакаў заканчэння сезона з нецярплівасцю. 21-га лістапада ён у родным горадзе ўзяў шлюб з каханай Наталляй, якая таксама маладзечанка, вучыцца ў БДЭУ. Яны ўжо даўно – на працягу шасці гадоў – сустракаліся. Калі Уладзімір гуляў у Растове і апошнім часам у Маскве, Наталля, бывала, прыязджала да яго.

Ужо праз тры дні пасля вяселля маладыя адправіліся ў падарожжа: дзесяць дзён правялі на Мальдыўскіх астравах, што знаходзяцца ў Індыйскім акіяне. Кажуць, там – экватар, там – цёпла.

З 15 студзеня Карыцька прыступіць да трэніровак у складзе свайго "Тарпеда-Металурга", кантракт з якім дзейнічае да 2006 года. Сёлета масквічы са скандалам захавалі месца ў мацнейшай расійскай лізе. Доўгі час былі ў табліцы апошнімі, але напрыканцы чэмпіянату сенсацыйна перамаглі некаторыя іншыя маскоўскія каманды. Многія відавочцы палічылі тыя матчы дагаворнымі. Праўда, наш зямляк адносіны да гэтага не меў, бо ў другім крузе выступаў пераважна за дублюючы склад. За аснову ж пастаянна гуляў у першым крузе, калі каманду яшчэ трэніраваў беларус Сяргей Алейнікаў, на звыклай пазіцыі правага паўабаронцы.

*Працяг будзе.*

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

